№ 27. Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 27 (119). Год II. Вільня, 3 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 2 красавіка.

**Заходні тэатр:**

Між Арра і Эн учора і сягоньня ізноў былі баевые сустрэчы глаўным чынам між дарогамі з Бапом на Круасэль і на Камбрэ, ды наабапол Соммы, на заходзі ад С. Кантэн. Англічане і французы наступалі тамака вялікімі сіламі і толькі з вялікімі ахвярамі, ў тым ліку 50 палонными і некалькімі кулемётамі, пасунуліся ўпярод сьледам за нашым войскам, адступаўшым паводлуг загаду.

Наабапол каналу Уаз—Эн і на плоскагоры Врэні французскіе атакі пад поўным агнём нашых батарэй пасунуліся ўпярод толькі незначна і з вялікімі стратамі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На Дзьвіне расейскае наступленьне адбіто агнём. На заходзі ад Луцка, пры Сьвінюхах, нашы дружыны ўзялі некалькіх палонных у акопах ворагоў.

*Фронт эрц-герцога Іозэфа*: Пры Людовай, у лясістых Карпатах, нашы разведчыкі зьнішчылі прыгатаванае ворагамі мінное поле. Наабапол даліны Уж расейцы на шырыні 7 кілёмэтроў ішлі на штурм пасьля сільнай падгатоўкі. Пад нашым агнём хвалі штурмаваўшых былі разбіты.

## Рэволюція у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. За апошні час цікавасць англічан да выпадкоў у Расеі шмат паменшала. Адносіны Буканэна да новаго міністэрства вельмі ахладзелі. Штодзенные нарады англіцкаго пасла з міністрамі, быўшые раней, скончыліся. Ў Думе ходзяць чуткі, выйшоўшые з Расеі, аб адстаўцы Буканэна. Як толькі Сазонов прыедзе ў Лондон, на мейсцо англіцкаго пасла ў Пецярбурзі будзе назначэн Асквіт.

«Бірж. Вед.» у аднэй стацьці, напісанай вельмі пэсымістычна, гавораць аб блізкім крызысе са спажыўнымі прадуктамі. Маюць быць зачынены крамы са спажыўнымі прадуктамі с прычыны недастачы тавару. Дзьве прычыны задзержываюць падвоз прадуктоў: бездарожжэ ад таючаго сьнегу і прыгатаўленьня селян да веснавых работ.

Стацьця заканчываецца славамі: «Мы павінны аткрыта сказаць, што набліжаецца недастача спажыўных прадуктоў ня толькі на найбліжэйшы час, але і на другую палавіну году».

Палажэньне у Одэссі — дужа сур'ёзнае. Некалькі тысяч партовых работнікоў кінулі работу. На ўсей палудзеннай Расеі пануе безладзьдзе на жалезных дарогах. У одэсскім порці чэрнь разграміла два вялікіе склады са збожжэм для арміі.

У радыкальных кругах Пецярбурга надта нездаволены, што тымчасовы урад, які і без таго падазрэваюць у буржуазнасьці, паддзержывае блізкіе зносіны с плютократамі Масквы і Пецярбурга.

Нарада аб парадку пахарон ахвяр рэволюціі вызвала вялікіе споркі. Левыэ у сваіх прамовах называлі Мілюкова «расейскім лёрдам», а Гучкова—«рэволюцыйным афэрыстам». Асоба Мікалая Мікалаевіча гэтак сама вызывае незгоднасць між правіцельствам і левымі. Саюз салдатоў дамагаўся ў пачатку рэволюціі, каб яго арэштавалі, а тымчасам урад пакінуў вялікаго князя на волі і паддзержывае з ім зносіны. Гэта вызывае ў радыкальных кругах падазрэньне, што тымчасовы урад маніцца ў будучым аддаць у рукі вялікаго князя ваенную дыктатуру.

## З агня ды у полымя.

Пасьля таго, як часць нашаго Краю аказалася адрэзанай ад Расеі і паднялося пытаньне аб нашай будучыне, тутэйшае польскае панство вельмі перэпалохалося. Думка аб тым, што нашым Краем будзе упраўляць сам народ праз сваіх выбарных людзей, што пры новым ладзе будзе перэважываць голас беларускаго і літоўскаго селянства, што Край гэты можэ астацца ў еднасьці з заходня-эуропэйскімі суседзямі,— вызвала вялікую трывогу між тутэйшымі землеўласьнікамі, — значыць, перш за ўсё між польскай шляхтай. І ня дзіва: польскіе паны, каторые у старой, самадзержаўнай Расеі са сваіх непамерных зямельных абшароў плацілі зусім малые — раўнуючы да селян—падаткі, разумеюць, што далучэньне нашаго Краю, да сыстэмы цэнтральных гасударств вызаве надта шыбкі узрост падаткоў з зямлі—с панскіх двароў. Яны разумеюць, што на Заходзі Эуропы ціжар падаткоў ужо даўно перайшоў с тых, хто працай сваей здабывае хлеб штодзенны, на тых, хто жыве с капіталоў ці з дворных замель, нічога ня робячы. Яны разумеюць, што новы лад—гэта канец усім прывілеям і панаваньню над нашым народам польскаго панства. І затым-то польская шляхта ў нас ад самаго прыходу немцоў «працавала» дзеля таго, каб нашу Бацькаўшчыну далучыць да Польшчы, дзе сіла панства пакуль-што ешчэ вялікая.

У Расеі робяцца вялікіе перамены. Зусім неўспадзеўкі народы Расейскай дзержавы скінулі самадзержаўнаго цара і яго чыноўніцкае правіцельство, разбілі стары лад і грозяць сваім паном яшчэ болей, чым заходня-эуропэйскіе парадкі: у Расеі народ дамагаецца адабраньня ад паноў дворных абшароў і раздзелу зямлі між тымі, хто вырабляе яе сваімі рукамі. І цяпер магчымасць павароту назад пад Расею — але пад новую Расею—ўсяго або часьці нашаго Краю палохае нашае польскае панство яшчэ болей, чым палохала думка аб прылучэньні да сыстэмы цэнтральнай Эуропы. Не здарма тутэйшая польская прэсса ўжо б'ець у звон на трывогу...

Той факт, што як у новай Расеі, так і пры новым ладзе ў нашым Краю польскаму панству тутака ходу ня будзе, павінен аканчацельна павярнуць палітыку тутэйшых польскіх колоністоў або ў кірунку «аннэксіі» да Польскаго Каралеўства, або ў кірунку шчыра краёваго становішча. Трэба спадзевацца, што часць тутэйшых палякоў, каторых ніпто з нашай зямлёй не звязывае, будзе ешчэ больш, чым дагэтуль, падымаць гвалт за тое, каб Беларуска-Літоўскіе землі былі прылучэны да Польшчы. Але—побач с тым—лепшые і разумнейшые с тутэйшых палякоў павінны зразумець, што с таго гвалту ніякай карысьці ня будзе: сьмешна спадзевацца, каб цэнтральные дзержавы пралівалі сваю кроў дзеля паняволеньня нашаго краю Польшчай. І гэтые людзі раней ці пазьней ступяць на дарогу, на якую клічэ іх грамадзкае сумленьне і сьвядомасць сваіх павіннасьцей перад Краем, дзе яны жывуць.

Абы толькі адумаліся не залішне позна: бо наш народ ніколі не забудзе, што ў момэнт, калі важыцца доля Беларусі і Літвы, тутэйшые палякі ня толькі не прылажылі рукі дзеля вызваленьня нашай Бацькаўшчыны, а кавалі путы для яе і для беларускаго і літоўскаго народаў!

*І. Мелешка.*

## У Вільні і ваколіцах.

† **Вінцук Сухадольскі.** У пятніцу, 30 марца, віленскіе беларусы пахавалі на Россе зыйшоўшаго без пары са сьвету сьв. п. Вінцука Сухадольскаго.

Сьмерць Яго зрабіла незвычайна цяжкое ўражэньне на ўсіх, хто Яго знаў бліжэй: запраўды, гэта была трагічная сьмерць.

Малады, 23-летні, повен жыцьця і энэргіі чэлавек, Ен месяц з лішкам таму назад ажаніўся, спадзяючыся знайсьці шчасьце ў дамовым жыцьці. Але шчасьце было лішне ўжо кароткае: не прайшло месяца ад вясельля, як памерла матка сьв. п. Вінцука Сухадольскаго, а праз некалькі дзён —маладая жонка.

Гэтаго двайнога ўдару Ен ня мог перанесьці: жыцьцё утраціло для Яго ўселякую цану, і ў панядзелак, 27 марца, на магіле сваей жонкі Ен налажыў на сябе рукі...

З вялікім жалем жэгнаемо мы таварыша Сухадольскаго. Незвычайна сымпатычны ў таварыскіх адносінах, гарачы і чынны ў ідэйнай рабоці, Ен занімаў выдатнае мейсцо як у жыцьці друкарскіх работнікоў, с каторымі працаваў, будучы членам прафэсыональнаго саюза зецэроў, так і ў жыцьці беларускай работніцкай групы і іншых беларускіх устаноў (у Клюбе, Камітэці пом. ахв. вайны). А цяжкі час, які цяпер перэжывае наша старонка і наш народ, робяць утрату гэтаго шчыраго сына Беларускаго народу тым болеў цяжкай.

Хай жэ спачыне у спакою ў тэй Зямлі-Матцы, каторая так мала шчасьця дала Яму і прымусіла тое шчасьце акупіць страшэнным горэм і сьмерцю без пары...

*А. Л.*

× **„Будучына літвіноў“.** Пад гэтым загалоўкам „Wilnaer Zeitung“, дапаўняючы надрукаваную ў нас 26 марца тэлеграму, друкуе другую стацьцю, ў каторай між іншым гаворыцца:

„Бадай, што німа другой старонкі, ў якой нацыональные справы былі бы больш заблутаны, чым у заходняй Расеі — на вялікім абшары між сапраўднай Расеей і нямецкай і польскай граніцамі. Характэрную адзнаку становіць тут тое, што нацыональные тэрыторыі перамешаны. З гатаго вынікае, што тут можэ быць справедлівым толькі прынцып, каб усім націям даць поўные правы і свабоду развіцьця, на якую кожная з іх мае права: кожная нація мае права на сваю нацыональную школу і на развіцьце свaей культуры. Нагледаць за гэтым, бараніць кожын народ ад другога, каторы могбы учыніць над ім гвалт, гэта — найпершая задача мудраго і справедліваго упраўленьня“.

× **Спісы падаткоў і налогоў** (галоўшчына, прамысловы налог, падатак з нерухомасьцей і даходу) на 1917 год выстаўлены ад 6 да 15 красавіка, Домініканская 2. Кожын, хто павінен плаціць падатак, атрымае апрыч таго паведамленьне на пісьме, сколькі і калі павінен ён плаціць.

× **Курс рубля**: офіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 36 ф., пры куплі—2 м. 40 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 28 на 29 | + 0,5° | — 3,5° |
| „ з 29 на 30 | + 3° | — 7° |
| „ з 30 на 31 | + 5° | + 3° |
| „ з 31 на 1 | + 6,5° | + 1° |

1.IV. Заходні тэатр.

Між дарогай с Пэррон у Куэ-Окур і далінаю Оміньён англічане у крывавых бітвах пасунулі свае лініі ўпярод на 2—3 кілёмэтры. Між Ленс і Арра, ўздоўж дарогі с Суассон на паўночны ўсход, на палудні ад Комбр, на ўсходзі ад С. Міэль і ў лесі Паруа адбіты наступленьня ворагоў.

На ўсходнім тэатры — без выдатных прыпадкоў.

*Македонскі фронт:* Без перамен. Нашы лятуны падпалілі і скінулі два прывязные лятучые шары.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 31.III. **Усходні тэатр:** (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** На прыморскім фронці ўзяты 25 палонных і 1 кулемёт.

ВЕНА, 1.IV. **Усходні тэатр:** Нічога выдатнаго.

**Італьянскі тэатр:** Наша дабыча на поўдні ад Вілі даходзіць 12 кулемётаў і 3 мінамётаў.

## Турэцкіе апавешчэньня.

КАНСТАНТЫНОПОЛЬ. (В.Т.Б.). **Эгінскі фронт:** Даўно спадзеваны англіцкі штурм пачалі 26 марца 4 дывізіі. Ворагі мелі цяжкіе страты і пакінулі на полі бітвы чысьленые трупы. 200 салдатоў і 1 афіцэр папалі ў палон. Здабыты 1 панцырны аўтомобіль і некалькі іншых.

КАНСТАНТЫНОПОЛЬ (В.Т.Б.) 30.III. На Эгіпскім фронці на полі бітвы пры Газе мы налічылі больш за 3.000 англіцкіх трупоў. Здабыты 12 кулемётаў і 20 шыбкастрэльных стрэльб.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). За месяц люты затоплены 388 тарговых параходаў агульнай ёмкасьці 781.500 тонн. У тым ліку 166 англіцкіх, 44 францускіе, 28 італьянскіх, 8 расейскіх, 4 бэльгійскіе, 2 партугальскіе і 1 японскі. Між вялікім запасам тавароў затоплено на 3 мільёны золата.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У апошнім часі нашымі падводнымі лодкамі затоплены ешчэ 34 параходы, 2 парусные караблі і 14 рыбалоўных агульнай ёмкасьці 90.000 тонн.

ЛЮГАНО. Лондонскі карэспандэнт «Corr. d. Sera» піша, што англіцкіе кругі вельмі непакояцца с прычыны незразумелых паступкоў нямецкай глаўнай каманды. Усё ешчэ нет ведама, на якім с паміж трох фронтаў немцы маняцца пачаць наступленьне. З гэтай прычыны кожын с саюзьнікоў павінен лічыцца з магчымасьцю наступленьня на яго фронці.

## За мір з Расеей.

БЭРЛІН. РЭЙХСТАГ. Канцлер між іншым сказаў:

„Цар Мікалай — гэта ахвяра свайго асьляпленьня. У 1905 гаду імператар Вільгэльм даваў становучые рады яму не працівіцца народнаму жаданьню рэформ. Але цар Мікалай выбраў сваю ўласцую дарогу, каторая не адпаведала ані патрэбам стараны, ані нашым патрэбам.

„У ўнутраные справы другіх старон мы мешацца ня будзем. Мы самі шмат пацярпелі ад грахоў старога ладу ў Расеі. І расейскаму народу німа што баяцца, што мы ўмешаемся ў унутраные справы яго. Мы ня хочэмо нічога іншаго, як дайсьці скораго міра з расейскім народам—роўна пачэснаго для абедзьвых старон“.

ВЕНА. (В.Т.Б.). Міністэр заграцічных спраў, Чэрнін, сказаў глаўнаму рэдактару «Fremdenblatt», між іншым, гэтак:

„Калі перамена упраўленьня ў Расеі давядзе да таго, што змучэные народы Расеі пераканаюцца аб магчымасьці ў які-хоч дзень зрабіць мір с цэнтральнымі дзержавамі, дык гэтая страшэнная бойня прыбліжыцца да канца. Калі мірная Конфэрэнцыя пакажэ, што згода — немагчыма, дык нясканчэная ешчэ вайна будзе трываць далей. Калі-ж ворагі будуць гатовы гаварыць аб пачэсным для іх і для нас міры, то для перагавораў прашкод ня будзе“.

БЭРЛІН. У нямецкіх палітычных кругах с прычыны гутаркі с Чэрніным гавораць гэтак:

Цяпер—чарод за Расеей: даць нямецкім і аўстрыяцкім мужам адказ. Мы можэм вытрываць да пачэснаго міра, годнаго нашых вялікіх ахвяр.

СОФІЯ (ВТБ). Міністэр-прэзыдэнт Радославов сказаў у боўгарскім парлямэнці, што ён зусім далучаецца да заявы нямецкаго канцлера і аўстрыяцка-вэнгерскаго міністра заграцічных спраў аб Расеі.

БУДАПЭШТ. У вэнгерскім парламэнці міністэр фінансоў Тэлесіті сказаў:

„У нашай монархіі німа ніводнаго чэлавека, які хацеў-бы ўмешацца ў унутраные справы Расеі. (Бурные знакі спогаду). На першы чарод мы хочэмо мець дзело с правіцельствам, каторае мае веру ўсяго расейскаго народу і с каторым мы маглі бы зрабіць пачэсны мір. (Агульные доўгіе знакі спогаду). Мы хочэмо, каб расейскі народ заўсёды карыстаў з варункоў мірнаго развіцьця“. (Агульнае браво).

